Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№9 (299) 27 лютага — 5 сакавіка 2003г. Наклад 12.300 экз. Кошт 350 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ

Слонім,
Зэльва,
Дзятлава,
Масты,
Ваўкавыск,
Шчучын,
Ліда,
Гродна,
Баранавічы,
іншыя гарады Беларусі,
а таксама на HTTP://gs.promedia.by

## АНОНС

**СЛОНІМ**

Слонімская Феміда вынесла прысуд вандалу.
**3** стар.

**КУЛЬТУРА**



Слонімскі тэатр выехаў на гастролі ў Навагрудак.
**4** стар.

**БЕЛАРУСЬ**



С 1-го марта увеличится тарифная ставка и базовая величина.
**20** стр.

Вступили в силу новые правила регистрации и учета транспорта.
**20** стр.

### ПРАВОДЗІНЫ ЗІМЫ

У суботу, 1 сакавіка, у гарадскім парку адбудзецца свята, прысвечанае праводзінам зімы.
**Пачатак у 11 гадзін.**

### КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ

в г. Слониме по состоянию на 9.15 25.02.2003г.

| | Покупка | Продажа |
|---|---|---|
| **"Беларусбанк"** | | |
| 1 USD | 1920 | 1970 |
| 1 EURO | 2080 | 2180 |
| 1 ZL | 500 | 525 |
| 1 RUR | 58 | 62,5 |
| **оао "Белпромстройбанк"** | | |
| 1 USD | 1930 | 1970 |
| 1 EURO | 2100 | 2150 |
| 1 ZL | 505 | 525 |
| 1 RUR | 59 | 62,3 |
| **"Белагропромбанк"** | | |
| 1 USD | 1920 | 1970 |
| 1 EURO | 2080 | 2150 |
| 1 ZL | 490 | 520 |
| 1 UAH | 330 | 370 |
| 1 RUR | 59 | 62 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| 1 USD | 1967 | |
| 1 EURO | 2115,41 | |
| 1 RUR | 62,28 | |

# ДА ВЫБАРАЎ – НЕКАЛЬКІ ДЗЁН




Выбар заўсёды ёсць: што выбіраць і каго выбіраць?

**Працяг тэмы чытайце на 3 стар.**

НАША ЖИЗНЬ – КАК ОНА ЕСТЬ

# СТЫДНО ПРОСИТЬ ДЕНЕГ У ПРОХОЖИХ

**Вот уже пятый месяц слонимчанка Вера Николаевна Жирначук практически голодает. Ее нищенской пенсии хватает лишь на оплату коммунальных услуг и на самые необходимые продукты: хлеб и молоко.**

"Осенью купила немного картошки. Вот и ем ее целую зиму. Чай в магазине уже давно не покупаю, дорого. Поэтому завариваю травы", – рассказывает Вера Николаевна.

Когда еще был жив муж, Вере Николаевне жилось более-менее нормально. Двух пенсий вполне хватало, чтобы оплатить коммунальные услуги, купить необходимые продукты. "Я еще и откладывала немного денег, – говорит Вера Жирначук, – как говорится, "на смерть". И эти все деньги ушли на похороны мужа...".

От безысходности своего положения Вера Николаевна почти каждый день плачет, сидя у окна. "Я слишком слабая, чтобы выйти на улицу и просить денег у прохожих, да и стыдно это делать", – говорит женщина.

К сожалению, на сегодняшний день большинство пенсионеров в нашей стране живут одинаково плохо. Главная проблема, с которой они сталкиваются, – это оплата коммунальных услуг, значительно подорожавшая в последнее время.

Например, Вера Николаевна живет в двухкомнатной квартире, где прописано два человека (общая площадь 58, 54м², жилая – 33, 08 м²). В месяц она платит за коммунальные услуги около 56000 рублей. А пенсия за январь у старушки составила 87410 рублей. Итого: 31410 рублей в месяц остается на скудное пропитание.



Фота Віталя ГЛЯ

*Вера Николаевна в постоянном раздумьи*

Конечно, сегодня с этой проблемой сталкивается каждая белорусская семья. Многодетные семьи также страдают от постоянно растущей платы за коммунальные услуги. Представитель Минской областной организации многодетных родителей Тереза Ласовская, отмечает агентство БелаПАН, к примеру, проживают с мужем и четырьмя детьми в однокомнатной квартире и вынуждены платить за коммунальные платежи каждый месяц 86 тысяч белорусских рублей! Естественно, оплачивать ежемесячно такую сумму семье из шести человек крайне тяжело... В связи с этим, по словам женщины, у многодетных семей постоянно образуются задолженности по оплате коммунальных платежей. А ЖЭСы, как известно, в последнее время пошли на ужесточение борьбы со "злостными неплательщиками". В результате, многим многодетным семьям, которые на самом деле просто не в состоянии выплачивать такие суммы, стали отключать газ, электричество, воду... По словам Терезы Ласовской, на одну многодетную семью жилищно-коммунальное хозяйство уже подало в суд на выселение из квартиры...

Что касается предоставления полагающихся льгот при оплате коммунальных платежей, то, как сообщила женщина, добиться их сегодня практически невозможно. Для этого требуется невероятное количество бумаг, необходимо пройти через бесконечные бюрократические процедуры, и, в результате, все равно льготы получают далеко не все семьи. Более того, задолженность за коммунальные платежи стала сегодня причиной неполучения многими семьями положенных льгот по другим статьям. Так, например, чтобы получить для детей бесплатное питание в школе, необходимо предоставить справку о состоянии семьи, но ее ЖЭСы сегодня не выдают, если полностью не оплачены все счета за коммунальные услуги. Получается замкнутый круг. И думаю, что никто не знает, как из него выбраться.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

**СПРАВКА**

Минимальная пенсия в Слониме и Слонимском районе на январь 2003 г. составляла 53990 рублей.

Максимальная пенсия – 155630 рублей для неработающих пенсионеров.

И 112970 рублей – для работающих.

ЗДАРЭННІ

## АХВЯРЫ АГНЮ

**На мінулым тыдні ў агні загінула тры чалавекі. Усяго на Гродзеншчыне, паводле звестак МНС, за мінулы тыдзень зафіксавана 35 пажараў.**

Напрыклад, у мінулую суботу ў вёсцы Азарычы Слонімскага раёна ў агні згарэла пенсіянерка. Прычынай здарэння стала невыкананне правілаў пажарнай бяспекі пры выкарыстанні пячнога ацяплення.

У гэты ж дзень у Скідзелі ўшчэнт згарэў драўляны дом. На папялішчы было знойдзена цела гаспадара, пенсіянера. Высветлілася, што ён, знаходзячыся ў нецвярозым стане, курыў, лежачы ў ложку.

Усяго з пачатку года ў вобласці адбылося 40 пажараў.

## ДАХ УПАЎ НА ЗБОЖЖА

**У мінулую пятніцу, 21 лютага, ва ўнітарным сельскагаспадарчым прадпрыемстве "Пераможац", што ў Слонімскім раёне, абваліўся дах збожжасховішча. У выніку, сем тон фуражнага зерня апынуліся пад бядаўнічымі абломкамі.**

Прычынай абвалу сталі нетрывалыя перагародкі даху збожжасховішча, якія абваліліся пад цяжарам снежнай масы.

У выніку, гаспадарка панесла страты ў памеры 10 мільёнаў рублёў.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

ФЕМІДА

## ЗЛАЧЫНЦЫ АТРЫМАЛІ ПА ЗАСЛУГАХ

**Раней "ГС" пісала пра тое, як невядомыя абрабавалі магазін у вёсцы Юхнавічы Слонімскага раёна.**

Адтуль яны вынеслі 300 бутэлек розных спіртных напояў, а таксама набралі рознай закускі, у тым ліку каўбасаў, апельсінаў, цукерак, цыгарэт і г.д.

Як стала вядома нашаму карэспандэнту з Івацэвіцкай раённай пракуратуры, гэтыя рабаўнікі затрыманы і асуджны. Два чалавекі атрымалі па 10 і 20 гадоў зняволення, а адзін з бандытаў – пажыццёвае зняволенне. Справа ў тым, што акрамя магазіна ў Юхнавічах банда абрабавала музей у Казлоўшчыне Дзятлаўскага раёна, забіла запраўшчыка ў Косаве і ўчыніла шэраг іншых злачынстваў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАШЫ КАДРЫ

# АДНЫХ – ЗДЫМАЮЦЬ, ДРУГІХ – ПРЫЗНАЧАЮЦЬ

**На мінулым тыдні пасаду дырэктара Слонімскага мясакамбіната пакінуў Алег Бярдула. Як стала вядома карэспандэнту "ГС", у аўторак, 18 лютага, адбыўся сход наглядальнага савета атрытага акцыянернага таварыства "Слонімскі мясакамбінат", дзе на павестку дня было вынесена тры пытанні.**

Аднак, прысутныя здолелі разгледзець толькі першае: "Агульны стан на прадпрыемстве". Падчас яго абмеркавання было выказана, што планавыя паказчыкі не выконваюцца, прадпрыемства завінавацiла вялікія сумы па крэдытах і, шмат чаго іншага, пачула ў той дзень у свой бок кіраўніцтва камбіната. У выніку, Алег Бярдула напісаў заяву аб звальненні па ўласнаму жаданню па стану здароўя.

Па словах дасведчаных людзей, гэты крок Алега Раманавіча амаль нікога з прысутных не азмрочыў. Бадай, толькі старшыня райвыканкама Мечыслаў Касцюк, які таксама прысутнічаў на сходзе, спрабаваў пераламіць ход падзей, але большасць акцыянераў заяваю Бярдулы засталіся задаволены. Адначасова, на сваіх пасадах былі не зацверджаны намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях і галоўны механік прадпрыемства.

Трэба адзначыць, што каля 40% акцый Слонімскага мясакамбіната валодаюць расійцы з Піцера, каля 30% – дзяржава, а астатнім пакетам акцый – пэўныя фізічныя асобы. Па меркаванню тых жа дасведчаных крыніц, новым дырэктарам можа быць прызначаны чалавек, які задавальняе расійцаў, доля статутнага капіталу якіх складае каля 400 тысяч даляраў. Як новы кіраўнік будзе выпраўляць вытворчы і фінансавы стан прадпрыемства – пакажа час. Разам з тым Алег Бярдула пакуль застаецца працаваць на камбінаце ў якасці намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце. У гэты панядзелак, 24 лютага, ён лёг у бальніцу. А абавязкі дырэктара мясакамбіната часова выконвае галоўны інжынер Іларыён Беладзед.

Прайшлі змены кіраўніка і на ўнітарным сельгаспрадпрыемстве "Пераможац" Слонімскага раёна. Новым дырэктарам прызначаны Юрый Саўчук. Як паведаміў карэспандэнту "ГС" былы дырэктар прадпрыемства Уладзімір Кемяжук, ён па асабістаму жаданню напісаў заяву аб звальненні і дырэктарам ужо не працуе з трэцяга лютага. Хаця кантракт з ім быў падпісаны да 2004 года. Новы дырэктар Юрый Саўчук прыехаў з Гродна, ён кандыдат сельскагаспадарчых навук. Цяпер тэорыю, яму, прыйдзецца прымяніць на практыцы.

Вядома, кадравыя ракіроўкі на Слонімшчыне нікога нічым асабліва не здзіўляюць. Яны былі, ёсць і будуць. Іншая справа: ці палепшыцца ад кадравых перастановак наша жыццё і быт людзей? Ці станем мы ад усяго гэтага лепш і багацей жыць? Як бачым, пакуль нічога ў лепшы бок не мяняецца. Мяняюцца толькі нашы начальнікі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЭКАНОМІКА

## ДА КАНЦА ЛЮТАГА ЗАРОБАК ВЫПЛАЦЯЦЬ

**Студзеньскую зарплату настаўнікі Слонімшчыны атрымаюць да канца бягучага месяца, а лютаўскую, адпаведна, – да канца сакавіка.**

Як патлумачыла карэспандэнту "ГС" загадчык аддзела адукацыі Слонімскага райвыканкама Галіна Шмялёва, і надалей настаўнікі будуць атрымліваць заробак з затрымкай на месяц.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПА СУТНАСЦІ

# ЧЫМ ГАНАРАЦЦА ДЭПУТАТЫ?

**Што ўдалося зрабіць у якасці дэпутата, чым вы можаце ганарыцца? — такое пытанне карэспандэнт "ГС" задаў некаторым цяперашнім і былым дэпутатам Слонімскага гар- і райсаветаў.**

**Віктар ГЕРАСІМЧЫК, размеркавальнік работ на ТАА "Слоніммэбля":**



— Адной з першых маіх дэпутацкіх спраў было вырашэнне пытання жыхароў дамоў па вуліцы К. Давыдзюк. Удалося дабіцца ўстаноўкі "канька" на дах дома, пабелкі будынка і ўстаноўкі кантэйнера для смецця. Двойчы за свой дэпутацкі тэрмін я ўзнімаў пытанне аб належнай працы грамадскага транспарту і неабгрунтаванай двайной аплаце праезду па выхадных. Падвоеная плата за праезд адмянялася гарвыканкамам у 1999-2000гг. За ўвесь дэпутацкі, так бы мовіць, справаздачны перыяд я аказаўся адзіным дэпутатам, які вынес на разгляд сесіі дэпутацкае запытанне пра бяспеку адпачынку гараджан у раёне Лабазоўскага возера. Цяпер там, разам з будаўніцтвам аўтазаправачнай станцыі, будзе ўзведзена і станцыя выратавання на вадзе, а таксама там усталююць гандлёвыя кропкі.

Спадзяюся, што больш не будзе трагічных выпадкаў гібелі людзей на гэтым вадаёме. Як дэпутат, я дабіваўся, каб адрамантавалі мост на вуліцы Камуністычнай, расшырылі пляцоўкі на прыпынку "Вакзал", тэлефанізавалі вёску Кастровічы, абсталявалі санвузел для наведвальнікаў сталоўкі №1, змянілі рэжым работы светлафора на вуліцы Сінічкіна каля гімназіі, абрэзалі голле з дрэваў у дварах дамоў на вуліцы Маякоўскага. Лічу, што гэта важныя з вырашаных праблем для аднаго чалавека ці групы грамадзян, якія таксама былі і маімі праблемамі.

**Васіль АФАНАСІК, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Слонімскі веснік":**



— Мне не сорамна, што без капейкі бюджэтных грошай удалося пабудаваць капітальны мост праз Ісу ў вёсцы Харашэвічы ў першы год майго дэпутацтва і затым — пешаходны мост у Нагуевічах. Таксама сваёй дэпутацкай заслугай лічу, што сёння амаль у кожным другім доме ў Нагуевічах ёсць тэлефон. Да гэтага там 25 гадоў не было падключана ніводнага новага нумара. І, акрамя многага іншага, я ніколі не маўчаў на сесіях.

**Мікалай ЛІШЫК, дырэктар Слонімскага драмтэатра:**



— Адзінае, што мне ўдалося зрабіць у маю бытнасць дэпутатам на сваім участку — гэта паспрыяць добраўпарадкаванню вуліцы Кірава. Пахваліцца вырашэннем нейкіх глабальных праблемаў не магу. Усё вельмі цяжка было прабіваць.

**Васіль ДУХОЎНІК, дырэктар гандлёвага прадпрыемства "Світанак", дэпутат з 30-гадовым стажам:**



— Самым галоўным за апошнія чатыры гады ў сваёй дэпутацкай і прафесійнай дзейнасці лічу выкананне наказаў выбаршчыкаў — будаўніцтва трох прадпрыемстваў гандлю, магазінаў у Рышчыцах, на вуліцы Карбышава і крамы "Смак" у цэнтры. Ажыццяўленне гэтых праектаў каштавала мне сілаў і здароўя. Але радуе тое, што патрэбную людзям справу ўдалося здзейсніць.

**Міхась ВАРАНЕЦ, ваенны пенсіянер, у 1995-1999 гг. дэпутат Слонімскага гарсавета, старшыня пастаяннай камісіі па самакіраванню:**



— Па вялікаму рахунку зрабіць нічога не ўдалося. Бо галоўная задача дэпутатаў – на сесіях Савета прымаць рашэнні на карысць людзей. Але, пасля прыняцця на рэферэндуме 24 лістапада 1996 года цяперашняй Канстытуцыі, Саветы ўсіх узроўняў канчаткова ператварыліся ў бяспраўны прыдатак выканаўчай улады. Галасуй, не галасуй у Савеце, а ўсё роўна будзе так, як хоча "вертыкаль". Таму я больш не балатуюся ў дэпутаты і не хаджу на гэтыя выбары.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ВЫБАРЫ ВАЧЫМА МАСТАКА













Малюе Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ

ФЕМІДА

## ВАНДАЛА АСУДЗІЛІ

**Восенню мінулага года наша газета пісала аб тым, як невядомы вандал раскапаў на Ружанскіх могілках у Слоніме магілу беларускага генерала Міхала Лявіцкага.**

Супрацоўнікі слонімскай міліцыі арыштавалі вандала. Ім аказаўся жыхар Баранавіч, які пражываў у Слоніме. Нядаўна над злачынцам адбыўся суд. Вандал атрымаў тры месяцы арышту.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## К ПОЖИЗНЕННОМУ ЗАКЛЮЧЕНИЮ

**В областном суде закончено слушанием дело и вынесен приговор в отношении ранее судимого жителя Слонима, 32-летнего К.**

В конце августа прошлого года в пансионате "Лесная сказка" зоны отдыха Пышки им была зверски убита 17-летняя девушка, студентка Гродненского аграрного университета, о чём "МВ" тогда сообщал читателям.

Суд под председательством судьи Л.Голубовича нашёл вину К. полностью доказанной и приговорил его к пожизненному заключению.

**"МВ"**

З ЗАЛЫ СУДА

# ПРЫЗНАЎСЯ, КАЛІ ПАПАЎСЯ

**Хваля злачыннасці з выкарыстаннем сучасных тэхналогій дакацілася і да Слоніма. Такая высnова напрошваецца пасля разгляду ў Слонімскім судзе крымінальнай справы Ільі Шлыковіча.**

Вясной 1999 года студэнт-завочнік Беларускага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Ілья Шлыковіч уладкаваўся на працу ў раённае ўнітарнае прадпрыемства "Слонімнафтапрадукт" на пасаду аператара ЭВМ. Малады камп'ютэршчык прымаў і апрацоўваў інфармацыю па безнаяўных плацяжах па электронных картах. У яго абавязкі таксама ўваходзіла афармленне дамоваў, якія кліенты (суб'екты гаспадарання) заключалі з РУП "Слонімнафтапрадукт".

Тэхніка на аўтазаправачных станцыях, якія абслугоўвала прадпрыемства "Слонімнафтапрадукт", пры разліках кліента праз электронную карту часам давала збой. У такіх выпадках аператар АЗС звяртаўся да Шлыковіча па дапамогу. Праблема вырашалася так, што запраўшчык запісваў нумар электроннай карты і выдаваў кліенту неабходную колькасць паліва па чэку. Праводку ж плацяжу па дакументах ажыццяўляў Шлыковіч. Таленавіты аператар хутка зразумеў, што можа скарыстоўваць службовае становішча сабе на карысць. Як прызнаўся на судзе сам Ілья Пятровіч, першы раз ён заправіў бацькоўскую машыну на чужы рахунак 3 траўня 2001 года. А ўвогуле з вясны 2001-га па лета 2002-га года Ілья Шлыковіч шляхам увядзення ілжывых дадзеных у камп'ютэрную базу дадзеных роднага прадпрыемства выбраў паліва на суму 3 мільёны 396 тысяч 122 рублі. Пры гэтым Шлыковіч маніпуліраваў рахункамі некаторых індывідуальных прадпрымальнікаў, мясцовага медаб'яднання і нават камерцыйнай фірмы.

> ... з вясны 2001-га па лета 2002-га года Ілья Шлыковіч шляхам увядзення ілжывых дадзеных у камп'ютэрную базу дадзеных роднага прадпрыемства выбраў паліва на суму 3 мільёны 396 тысяч 122 рублі.

Дзюркі ў справаздачных дакументах усплылі, калі малады чалавек пакінуў працоўнае месца, паехаў у Мінск здаваць студэнцкую сесію. А потым раптам знік. У мясцовай прэсе і на дошцы аб'яў райаддзела міліцыі была змешчана інфармацыя пад рубрыкай "Дапамажыце знайсці чалавека". Міліцыя яго і знайшла. Шлыковіча арыштавалі 13 студзеня бягучага года. А праз месяц справа ўжо слухалася ў судзе.

Прад'яўленыя яму абвінавачванні Ілья Шлыковіч прызнаў цалкам. Бацькі выплацілі суму матэрыяльных стратаў, што нанёс іх сын раённаму прадпрыемству нафтапрадуктаў. Суд таксама ўлічыў тыя акалічнасці, што Шлыковіч учыніў злачынства ўпершыню і садзейнічаў следству. Таму прыгавор быў вынесены досыць мяккі — да месяца арышту, пакуль знаходзіўся пад следствам, дадалі яшчэ пяць месяцаў умоўнага пакарання з вызваленнем з-пад варты ў зале суда.

Гледзячы на радасць, якая адбілася на твары асуджанага пасля абвяшчэння прыгавора, падумалася, што цяпер у гэтага маладога чалавека наўрад ці ў бліжэйшы час узнікне жаданне пускацца ў камп'ютэрныя гульні з законам.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### ВОПРОС — ОТВЕТ

*Какое учреждение несет ответственность за уборку подъездов многоквартирных домов?*

**Алешин П.С., слонимчанин**

Как ответил начальник ЖЭС-1 Сергей Барбутько: "Уборкой подъездов занимаются ЖЭСы. Один раз в неделю, по графику, наши сотрудники проводят влажную уборку подъездов, а три раза в неделю – сухую".

РЭПАРТАЖ

# АНШЛАГ НА ГАСТРОЛЯХ

Словы "аншлаг" і "гастролі" запазычаныя з нямецкай мовы. Тым не менш, яны даўно прыжыліся ў нашай мове, і іх ведае кожны адукаваны беларус. Без гэтых слоў немагчыма абыйсціся, калі, напрыклад, апісаць двухдзённыя гастролі Слонімскага беларускага драматычнага тэатра ў Навагрудак, якія адбыліся ў мінулыя чацвер і пятніцу.



Перад выхадам на сцэну

Больш за тысячу дарослых гледачоў першай старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага паглядзелі класічную камедыю нашага песняра Янкі Купалы "Прымакі". Спектакль адбыўся ў Навагрудскім РДК пры поўным аншлагу.

## ПА ДАРОЗЕ Ў НАВАГРУДАК

Слонімскі беларускі драмтэатр часцей за ўсё гастралюе па рэспубліцы з дзіцячымі спектаклямі. Гастрольныя пастаноўкі для дарослых у Навагрудак арганізаваў галоўны адміністратар тэатра Вячаслаў Асіпчук. "Гэта мой новы праект", — жартуе Вячаслаў. Жарт жартам, і тым не менш падобныя гастролі намячаюцца ў Баранавічы, на Палессе і ў іншыя мястэчкі Беларусі.

З "Прымакамі" у Навагрудак выехала ўся акцёрская трупа, не лічачы тэхнічнага персаналу, работнікаў сцэны і вадзіцеляў. Два аўтобусы ў чацвер, 20 лютага, накіраваліся ў Навагрудак. Каля ста кіламетраў — для слонімскіх артыстаў не дарога. Тым больш, калі ў салонах аўтобусаў ёсць месца жартам і гумару. Пра жанчын і пра секс заўсёды любяць пагаварыць артысты Уладзімір Навумік, Васіль Сявец і Сяргей Лішык. Ды і вопыт жыццёвы і сямейны ў іх ёсць. А вось акцёры Вікторыя Міхальчык, Сяргей Фурса, Ірына Яцук, загадчыца акцёрскай трупы Ларыса Слонава "рэжуцца" у карты. У іх свая гульня з гастрольнымі традыцыямі і характарамі. Але ўсе гэтыя хлопцы і дзяўчаты не без гумару. Тым больш, што за трынаццаць гадоў існавання тэатра ў Слоніме, ёсць што ўспомніць вясёлае і смешнае. Пра гэта можна напісаць добрую кнігу гастрольных кур'ёзаў і жартаў.

Прывяду некалькі прыкладаў. Аднойчы, выступаючы на сцэне аднаго з дамоў культуры Баранавіч, артыст Сяргей Пракопіч, іграючы ў спектаклі "Драўляны рыцар" стражніка, нечакана наступіў нагою на галаву работніка сцэны, які сядзеў у аркестровай яме. Але чалавек вытрымаў, не адступіўся, бо артыст у час спектакля ўпаў бы ў яму. Пасля выступлення Сяргей Пракопіч падыйшоў да работніка сцэны і папрасіў у яго прабачэння. " Ат, нічога тут балючага не было, — махнуў рукою клубны работнік. — Аднойчы мне кірзавым ботам наступілі на галаву ў гэтай яме. Тады, браток, сапраўды, было балюча".

У спектаклі для дзяцей "Чарнакніжнік" артыст Віктар Шчарбакоў, рускі па нацыянальнасці, іграў ролю Чарнакніжніка. І ў час спектакля забыўся, як будзе пабеларуску слова "куля". На галоўнага героя дзіцячай казкі Алеся Чарнакніжнік вымавіў: "Мяне ніводная х-хуля не бярэ". Некаторыя гледачы заўважылі гэтую недарэчнасць і ўсміхнуліся.

Артыст Уладзімір Навумік у спектаклі "Камедыя" іграў ролю Дзёмкі. На дрэве ў шпакоўні ён знайшоў схаваную бутэлечку "гарэлкі", сеў на пень і з асалодаю яе хлебануў. Аказалася, што там на самай справе была гарэлка, якую да спектакля замест вады налілі артысткі Таццяна Натарава і Ірына Яцук. Проста, вырашылі пажартаваць з артыста Уладзіміра Навуміка. Жарт удаўся.



У аўтобусе па дарозе Слонім — Навагрудак



Сцэна са спектакля "Прымакі"

## АДПАЧЫЛІ З "ПРЫМАКАМІ"

Навагрудак сустрэў слонімскіх артыстаў гурбамі снегу на вуліцах і тратуарах. І калі ў нашым Слоніме дарожныя службы працуюць дрэнна, дык у Навагрудку яны зусім не працуюць. Хаця старшыня Навагрудскага райвыканкама Анатоль Ліс марыць Навагрудак зрабіць турыстычным горадам. Цяжка паверыць, ці спадабаецца турыстам коўзацца па гурбах у пошуках слядоў Вітаўта, Міндоўга і Адама Міцкевіча. Таму і слонімскія артысты ледзве пад'ехалі да РДК, але ўсё роўна без рыдлёўкі не абыйшлося: вадзіцелі Васіль Пратасевіч і Арсень Бацько доўга вычэшчалі снег з-пад колаў аўтобусаў.



Падчас спектакля ў Навагрудскім РДК

РДК у Навагрудку размяшчаецца ў старым, але даволі ўтульным будынку. Ёсць нават падвальныя памяшканні, якія нагадваюць Люблінскія катакомбы. Мясцовыя энтузіясты плануюць падвальныя скляпенні аздобіць пад рыцарскі клуб "Мэта". Ён тут ужо існуе, але на яго далейшую дзейнасць не хапае грошай.

Калектыў тэатра адкватэраваўся на другім паверсе, бліжэй да залы і сцэны. І за некалькі хвілін да пачатку спектакля зала была запоўнена да адказу. На спектакль прыйшлі і супрацоўнікі мясцовага райвыканкама. А загадчык аддзела культуры Аляксандр Карачан пацікавіўся, ці добра ў РДК калектыў са Слоніма сустрэлі, ці стварылі ўмовы для працы артыстам, а яшчэ Аляксандр Мікалаевіч сказаў, што жыхары Навагрудка любяць хадзіць на канцэрты і спектаклі гасцей. Праўда, пры ўмове, калі білеты будуць каштаваць не больш за тры тысячы рублёў. На спектакль Слонімскага тэатра білеты каштавалі ўсяго 1500 рублёў.

"Прымакі" на навагрудскай сцэне, сапраўды, парадавалі гледачоў. Такога смеху ў зале і апладысментаў артысты нават і не памятаюць. А вось кветачкі ім пасля спектакля так ніхто і не паднёс. А можа ў Навагрудку такое не практыкуюць? Але па аўтографы да артыстаў у грымёрку гледачы прыходзілі. Значыць, спектакль удаўся і людзі адпачылі. А гэта самае галоўнае.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**фота Віталя ГІЛЯ**



Навагрудскія гледачы задаволеныя "Прымакамі"

СМАРГОНЬ

## ПОГИБЛИ 32 ТЕЛЕНКА

**20 февраля в деревне Острово Сморгонского района обрушилась кровля молочно-товарной фермы. В результате погибли 32 теленка.**

Рухнула кровля на площади 400 квадратных метров — это половина крыши здания. В этот момент в телятнике фермы находилось 100 животных, 35 из которых оказались заваленными упавшими строительными конструкциями.

Причина обрушения пока не установлена. Однако не исключено, что фрагменты кровли рухнули под тяжестью скопившегося на ней снега.

**Дмитрий БЕЛЬСКИЙ**

ГРОДНО

## СЕЛУ ЗАДОЛЖАЛИ МИЛЛИАРДЫ РУБЛЕЙ

**До 1 марта сельские организации страны обязаны погасить задолженность по заработной плате за декабрь прошлого года, сложившуюся в размере 8,8 миллиарда рублей.**

По данным Минсельхозпрода, самую высокую задолженность по заработной плате среди сельских регионов имеют хозяйства Гродненщины — 2,7 миллиарда рублей.

**ХАРТИЯ-97**

## НОВАЕ КОНСУЛЬСТВА Ў ГРОДНЕ

**Генеральнае консульства Літоўскай рэспублікі ўрачыста адкрылася на мінулым тыдні ў Гродне.**

У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовай улады, госці з Літвы, супрацоўнікі амбасады Літоўскай Рэспублікі ў Мінску, а таксама сябры літоўскага таварыства Гродзенскай вобласці.

Візы ў Літоўскую рэспубліку можна атрымаць па адрасе: горад Гродна, вуліца Горкага, 104.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

ДЗЯТЛАВА

## ЗАЛЕЗЛІ НА ДАЧУ

**Жыхарка Баранавічаў, грамадзянка Н., мае дачу ў вёсцы Мяляхавічы Дзятлаўскага раёна.**

Зімой, звычайна, там ніхто не жыве, і гэта выкарысталі . У адну з зімовых начэй невядомыя сарвалі навесны замок на ўваходных дзвярах і, трапіўшы ў памяшканне, укралі каляровы тэлевізар "Самсунг", мікрахвалевую печ і іншае хатняе дабро.

Міліцыя шукае злодзеяў.

## ПАКАЯЎСЯ

**У лістападзе мінулага года з фермы вёскі Погіры, якая належыць калгасу "1 Мая" Дзятлаўскага раёна, прапалі дзве каровы.**

Па гарачых слядах злодзея адшукаць не ўдалося. Але нядаўна ў міліцыю з павіннай прыйшоў жыхар горада Ліда, грамадзянін В., які прызнаўся, што калгасных кароў ён украў разам з двума сваімі сябрукамі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

МАСТЫ

# ЗА ДАБРАЧЫННАСЦЬ ТАКСАМА ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

### ГЭТА ГІСТОРЫЯ ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛАСЯ, АЛЕ ЯНА ПАКАЗАЛА, ЧАГО ВАРТА АБЯЦАННЕ ЧЫНОЎНІКА

**Першыя чарнобыльскія перасяленцы з'явіліся ў Мастах напачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Пераехала некалькі тысяч чалавек.**

Напрыканцы 1995 года найбольш актыўныя стварылі раённае аддзяленне дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля". Мэты былі самыя найлепшыя: аб'яднаць намаганні людзей у справе аказання сацыяльнай, гуманітарнай, аздараўленчай дапамогі дзецям і сем'ям, што пацярпелі ў выніку катастрофы на АЭС. У 1999 годзе на базе аддзялення ствараецца Моладзевы цэнтр. Паўстае востра праблема вольнага часу дзяцей. Каб мець юрыдычныя падставы для афіцыйнай дзейнасці, арганізацыя падала ў райвыканкам дакументы для рэгістрацыі і ў кастрычніку атрымала даведку, што яна надзяляецца правам юрыдычнай асобы. На працягу трох месяцаў былі выкананы ўсе прадугледжаныя законам фармальнасці: адкрыты рахунак у банку, зроблена пячатка. Летам 2000 года між кіраўніцтвам аддзялення фонду і загадчыкам аддзела адукацыі райвыканкама Мікалаем Ярмаком дасягнута вуснае пагадненне аб выкарыстанні былога школьнага ціра, што знаходзіцца побач з СШ№ 5. Памяшканне ўжо на працягу васьмі гадоў выкарыстоўвалася ў якасці склада і было завалена інвентаром ды смеццем. Са дня будаўніцтва там ніхто не праводзіў рамонт. Уваходныя дзверы згнілі, працякаў дах, правая сцяна займела трэшчыну ад усадкі грунту. За адзін месяц бацькі і дзеці адрамантавалі будынак. Матэрыялы выпрашвалі ва ўсіх арганізацыях і камерцыйных структурах горада ў якасці дабрачыннай дапамогі. У снежні 2000 года па пісьбе Мікалая Ярмака была складзена дамова "На бязвыкупнае карыстанне будынкам тэрмінам 5 гадоў". Плаціць неабходна было за камунальныя паслугі. Праз год загадчык аддзела адукацыі папярэдзіў кіраўніка раённага аддзялення фонду Святлану Шульгу, што дамова на арэнду будзе зменена. У гэты час у моладзевым цэнтры кіпела праца. Працавалі два гурткі англійскай мовы, два кампутарныя гурткі па 7 чалавек. У спартыўным зале пад кіраўніцтвам настаўніка Анатоля Місюка займалася 8 груп па 12 чалавек, прычым 6 груп юнакоў-падлеткаў, група дзяўчат і група жанчын. Як кампутарную тэхніку, так і спартыўны інвентар цэнтру прадставілі замежныя спонсары. Падобнага абсталявання не было не толькі ні ў адной школе горада, але і раёна. Дзеці мелі вольны доступ у Інтэрнэт. Тут жа існаваў гурток "Музычныя вечары" і дзеці прадстаўлялі свае музычныя праграмы ў доме састарэлых у вёсцы Курылавічы і Правамастоўскай школе-інтэрнаце. Вёў заняткі псіхолаг, у яго былі дзве групы дзяцей па 12 чалавек. Прычым наведвалі цэнтр як дзеці перасяленцаў, так і карэнных мастаўчан. Сярод іншага штогод групы дзяцей праходзілі аздараўленне ў Германіі і Італіі. Новая дамова, дзе была прадугледжана плата за арэнду, ставіла бесперспектыўнасць далейшай дзейнасці. Толькі за студзень 2002 года яна дасягнула звыш 150 тысяч рублёў, а камунальныя паслугі былі ўдвая большымі. Заплаціць толькі за адзін месяц амаль паўмільёна рублёў дабрачынная арганізацыя не магла. Эканамічнай дзейнасці яна не вяла, і даходы яе складалі сяброўскія складкі ды дабраахвотныя ахвяраванні. Кіраўніцтва аддзялення фонду звярнулася да старшыні райвыканкама Аляксандра Кісялёва за дапамогаю. Апошні паабяцаў станоўча вырашыць пытанне. Два месяцы працягваліся пошукі кампрамісінага рашэння. Увесь гэты час у арэндуемым памяшканні ішлі заняткі школьнікаў. І ўжо 1 красавіка 2002 года Святлана Шульга вусна давяла да ведама Мікалая Ярмака, што вымушана адмовіцца ад арэнды ў такім варыянце, і ў гэты ж дзень памяшканне было вызвалена, але пакінута ў добрым стане. І надалей тут праходзілі школьныя заняткі. Афіцыйна дамова была разарвана толькі 3 чэрвеня, пасля заканчэння навучальнага года. Праз некалькі месяцаў аддзел адукацыі раёна звярнуўся ў Гродзенскі гаспадарчы суд аб зыску да раённага аддзялення дабраахвотнага фонду. Улады меліся спагнаць з фонду болей як 4,5 млн. рублёў, дзе 1,5 млн. рублёў была плата за арэнду памяшкання, а астатнюю суму складала пеня ды дзяржпошліна. Судовае паседжанне на чале з Уладзімірам Філіпоўскім адбылося 12 снежня 2002 года. На ім было ўстаноўлена, што пры перарэгістрацыі арганізацыі ў 1999 годзе райвыканкам дапусціў памылку; не запатрабаваў ад яе ўласны Статут, а таму рэгістрацыя не сапраўдная. У такім выпадку, не сапраўдная і дамова. Гродзенскі гаспадарчы суд на гэтай падставе адмовіў аддзелу адукацыі ў зыску. Напачатку, прысутныя на судзе М.Ярмак і юрыст аддзела адукацыі пагадзіліся з пастановаю суда, але неўзабаве накіравалі паўторны зыск ужо ў Гаспадарчы суд г.Мінска.




*Общий вид четвертого блока Чернобыльской АЭС, которая была закрыта 15 декабря 2000 г.*

Судовая зацятасць аддзела адукацыі здзіўляе. Як здзіўляе і тое, што разбурана цэльная сістэма выхавання, дзе была задзейнічана не адна сотня падлеткаў і пры гэтым ніякай фінансавай дапамогі ад чыноўнікаў, ад адукацыі ніхто не патрабаваў, а пры сумесных намаганнях плён быў бы яшчэ большы.

Зараз на месцы кампутарнага класа аддзялення фонду размясціўся прыватны кампутарны клуб, дзе дзяцей не навучаюць, а даюць магчымасць за грошы пагуляць. Прычым, як сцвярджаюць школьнікі, сюды наведваюцца і дарослыя. Яны раз-пораз адчыняюць пустую спартыўную залу ды пакідаюць пасля сябе пустыя пляшкі з-пад гарэлкі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ГРОДНО

# СТРОИТЕЛЬСТВО ГРОДНЕНСКОЙ ГЭС ЭКОЛОГИ НАЗЫВАЮТ "УБИЙСТВОМ ДЛЯ НЕМАНА"

**В этом году начнется строительство Гродненской гидроэлектростанции. Как сообщил БелаПАН заместитель главного инженера предприятия "Гродноэнерго" Виктор Микулич, запланировано построить две электростанции: крупную — в районе Гродно — мощностью до 17 МВт, и небольшую — на Августовском канале — мощностью 250 кВт.**

"Станцию на канале мы строим не для получения энергии, потому что мощность небольшая. Однако ее появление на Августовском канале привлечет инвестиции в эту зону и позволит развивать там туризм", — считает главный инженер.

"Гродноэнерго" готовит тендер на строительство ГЭС. Деньги на проект будет выделять концерн "Белэнерго". Итоги тендера будут известны в марте. Сейчас в концерне решают, строительство какой станции начнется первой — Гродненской или Гомельской. По предварительным данным, быстрее всего, финансы будут выделены на возведение Гродненской ГЭС.

В то же время областной комитет охраны окружающей среды еще не дал "Гродноэнерго" разрешения на строительство ГЭС. Против строительства станции выступает и местное экологическое общество, представители которого называют этот проект "убийством для Нёмана".

По словам координатора общественного проекта "Мы против новых плотин на Немане", ихтиолога Нины Полуцкой, главная опасность строительства ГЭС — в изменении гидрологии реки. Неман, отметила она, имеет подвижное русло, которое формируется под постоянным воздействием песчаных и галечных наносов. Плотина перекроет песчаные потоки, и ниже ее могут образоваться глубокие рвы длиной до 10 км. Аналогичная картина наблюдается сегодня возле Каунасской ГЭС в Литве. "Таким образом, Нёман уйдет вглубь, — считает Нина Полуцкая. — Оголятся берега, мостовые подпорки, подводные магистрали... Неизвестно, чем это обернется". По мнению Полуцкой, строительство ГЭС только незначительно покроет нужды Гродненской области в энергии. Ее мощности не хватит даже на то, чтобы удовлетворить потребности, к примеру, такого предприятия как "Химволокно".

Сущность политики людей, которые ратуют за строительство ГЭС, считает Полуцкая, — в стремлении "выбить" государственное финансирование, которое обещает заработки, новые трудовые места, технику и т.д.

**Алеся СИДЛЯРЕВИЧ**

ЗЭЛЬВА

# НАЙБОЛЬШ ДАЎГОЎ У СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

**Летась на сярэдзіну лютага запазычанасць за электраэнергію па Зэльвенскаму раёну склала 333 мільёны 340 тысяч рублёў.**

На першым месцы ў спісе даўжнікоў значацца калгасы і саўгасы раёна. Іх запазычанасць складае 188 мільёнаў рублёў. Бюджэтныя арганізацыі павінны РЭС 6 мільёнаў рублёў, прамысловыя прадпрыемствы — 2 мільёны рублёў.

Тым не менш, як сказаў карэспандэнту "ГС" начальнік зэльвенскіх раённых электрасетак Аляксандр Сталпец, па паказчыках аплаты за электраэнергію, адпушчанай у мінулым годзе, Зэльвенскі раён знаходзіцца на перадапошнім месцы сярод іншых раёнаў Гродзенскай вобласці.

Па яго ных словах, насельніцтва раёна разлічваецца за электраэнергію на 98%. Па выніках мінулага года па прамысловасці і іншых дробных прадпрыемствах раёна разлікі за электрычнасць склалі 100%. Сельскагаспадарчая група спажыўцоў разлічылася з раённымі элетрасеткамі на 23%. Менавіта з-за гэтага нізкага паказчыка ў агульным падліку аплата за электраэнергію, адпушчаную ў мінулым годзе, па Зэльвеншчыне склала 62,8%. Як вядома, з 1 красавіка 2002 года ўрадам было прынята рашэнне аб адтэрміноўцы выплаты калгасамі і саўгасамі рэспублікі даўгоў за электраэнергію. На той час запазычанасць сельскіх гаспадарак раёна складала 3,8 мільярды рублёў. Гэта сума згодна з адтэрміноўкай была распісана да 2006 года. Аднак, з 1 лістапада мінулага года, калі паўставала пытанне з пастаўкамі газу з Расіі, выйшла новая пастанова ўрада. Паводле гэтай пастановы ўсе суб'екты гаспадарання павінны аплаціць бягучыя плацяжы на 100%. Таму з 1 лістапада вядзецца новы адлік аплаты за электраэнергію для калгасаў і саўгасаў. За студзень 2003 года прамысловая група спажыўцоў разлічылася з раённымі электрасеткамі на 105,8%. Аплата па сельскагаспадарчай групе склала 132,7 %.

— На сённяшні дзень, — адзначае начальнік РЭС Аляксандр Сталпец, — у раёне ёсць некалькі гаспадарак , якія аплацілі 100% бягучага спажывання электраэнергіі і скарацілі запазычанасць, што мелася ў іх на першае лістапада". Так, калгас "Радзіма" не разлічыўся з электрасеткамі на суму 19 мільёнаў рублёў, цяпер жа яго доўг складае 13 мільёнаў рублёў. У калгаса "Прагрэс" сума доўгу складала 1,6 мільёнаў рублёў, а цяпер у гэтай гаспадарцы 9 мільёнаў папярэдняй аплаты.

Асноўныя меры барацьбы з неплацельшчыкамі – гэта адключэнне падачы электраэнергіі. Калі спажывец не плоціць за электрычнасць два разліковыя перыяды, то пасля папярэджання раённыя электрасеткі маюць права адключыць падачу электраэнергіі на аб'екты даўжнікоў. Па словах Аляксандар Баляслававіча, практычна ва ўсіх калгасах раёна ў мінулым годзе адключалася электрычнасць на пілараамах і ў адміністрацыйных будынках.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**




*Абрэзалі...*

МАСТЫ

## КОЖНАЕ ПЯТАЕ ДЗІЦЯ – СІРАТА

**У Мастах і раёне зараз налічваецца крыху болей як чатыры тысячы дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў.**

Сацыяльную дапамогу з нагоды страты кармільца маюць амаль васемсот чалавек.

## НАЧАЛЬНІКІ ПЕРАЙШЛІ НА ТРОЙКІ

**У сувязі з расшырэнне Мастоўскай гарадской АТС многія кіраўнікі арганізацый і ўстаноў горада паспяшалі замяніць былыя тэлефонныя нумары, якія пачыналіся з "2" на "3".**

Некоторыя з іх змянілі нават тэлефонныя хатнія нумары.

## ДАРЭМНАЕ ГНІЛЛЁ

**Ужо каторы год у сельгаспрадпрыемстве "Мастаўчанка" назіраюцца праблемы з кармамі.**

У мінулыя гады звычайна пасля Новага года кармы закупляліся ў суседніх калгасах раёна ўзамен на маладняк. Зараз, як сцвярджаюць спецыялісты гаспадаркі, сілас прывозяць з Парэчча з-пад Гродна, прычым бясплатна.

Па словах усё тых жа спецыялістаў, гэтыя кармы былі нарыхтаваны тры гады таму і з цягам часу згнілі, тым не менш, каровы неқандыцыю ядуць. Яно і зразумела – голад не цётка.

**Антон МАКЕЙ**

МАСТЫ

## ДАРАГІЯ ЦЫГАРЭТЫ

**Паўмільёна рублёў штрафу давядзецца заплаціць мастаўчаніну К.**

Падчас агляду яго машыны міліцыя знайшла шэсць блокаў цыгарэт без акцызных марак.

## НЕЎГАМОННЫ СЫН

**У вёсцы Правыя Масты 24-гадовы мужчына так раз'юшыўся, што бацька вымушаны быў выклікаць міліцыю.**

Пасля таго, як дзяцюк зламаў плот, пабіў сёе-тое і нарабіў іншай шкоды ў гаспадарцы, ён схаваўся ў куратніку. Менавіта там і знайшла яго міліцыя.

**Антон МАКЕЙ**

ЛІДА

## КАБ ВЕДАЛІ СВАІХ

**Лідская друкарня цэнтралізавана выпусціла ўлёткі кандыдатаў у дэпутаты, якія балатуюцца ў мясцовыя Саветы.**

Тэксты ўлётак нічым не адрозніваюцца ад улётак кандыдатаў у іншых гарадах. Тым не менш, яны толькі вызначаюцца адной асаблівасцю – рыжым колерам. Як лічаць дасведчаныя людзі, зроблена гэта было з мэтаю, каб пазбавіць прэтэндэнтаў у дэпутаты далейшага тыражыравання друкаванай агітацыі.

**Антон МАКЕЙ**

# ТЫ БОЛИ

## РАЗОТРИ РУКАМИ

**Поднимите руки те, у кого после сорока лет ничего не болит. Увы, лес рук не наблюдается. Хотя бы потому, что у многих болят плечевые и локтевые суставы. А кому не знакома боль в спине? Зато все знают, как эту боль унять: чуть что хватаются за таблетки.**

— Это очень распространенное явление, — с сожалением констатирует доктор медицинских наук, главный ревматолог Минздрава, профессор Николай Сорока. — Многие больные для купирования боли принимают лекарства внутрь. Но, к сожалению, часто многие лекарства, применяемые для уменьшения боли, имеют побочные эффекты, особенно они связаны с поражением желудочно-кишечного тракта вплоть до желудочных кровотечений. Хотя сегодня, чтобы избавить человека от болей в костно-мышечных тканях, помимо таблеток существует достаточно большой выбор мазей, кремов, гелей.

**— Чем они отличаются друг от друга?**

— Мази готовятся на жировой основе с добавлением лекарственного вещества. Недостаток в самой основе. Мазь плохо втирается, на теле остаются жировые пятна, которые пачкают одежду. Мазь быстро стирается с тела. Кремы – в основном для наружного применения в косметологии. То есть, когда надо что-то скрыть либо снять самую поверхностную боль.

В последние десятилетия появилось много лекарств на основе геля. В них нет жира, гель очень хорошо растирается и втирается в неповрежденную кожу. И лекарственные препараты, которые входят в состав геля, легко и глубоко проникая через неповрежденную кожу, оказывают обезболивающее действие. Если сравнить мазь, крем и гель, то глубже всего и в большей концентрации проникают лекарственные препараты на основе геля. Поэтому чаще всего врачи рекомендуют больным гели. В первую очередь, гели подходят для пожилых людей, у которых существует достаточный слой жировой клетчатки. "Пробить" жир может только лекарственный препарат на основе геля. Поэтому и эффективность гелей выше – лекарство проникает глубже.

**— Но ведь и на мазях, и на гелях написано: "обладает обезболивающим действием".**

— Обезболивающее действие бывает разным и от разных болезней. Если у пациента какая-то припухлость, отечность, покраснение, то ни в коем случае нельзя использовать мази, содержащие какие-то раздражающие вещества, вызывающие прилив крови к очагу поражения. Гели же не содержат раздражающих веществ, поэтому могут применяться и при припухлости и отечности.

**— То есть гели безвредны?**

— Такого термина нет. У всех лекарств могут быть побочные действия. Но побочные действия лекарственных средств, входящих в гель, несоизмеримо меньше, чем от тех же лекарственных средств, входящих в таблетки. В гелях лекарство действует "точечно", и в кровь попадает незначительное количество, а при приеме внутрь лекарство действует на все органы.

**— Всегда ли эффективны гели?**

— Лекарства, которые принимаются наружно, не во всех случаях могут снять боль. Если человек сломал ногу, то какое бы наружное лекарство он ни применял, боль снять невозможно. Есть еще одна проблема. Не всегда больные знают, куда и в какое место втирать лекарство. Существует так называемая "отдающая, или отраженная боль". То есть болит в области плеча, а причина – в шейном отделе позвоночника. Поэтому втирать гель в плечо бесполезно. Только врач может указать то место, где рождается боль.

**Вячеслав ТКАЧ**

**Дорогой наш сыночек, братик**
**Анатолий Анатольевич СУББОТКО!**
**Поздравляем тебя с юбилеем — 30-летием!**



*Желаем тебе счастья, здоровья*
*и долгих лет жизни.*
*Чтобы этот день и твои годы*
*сияли солнцем и цвели цветами,*
*никогда не вяли. Будь счастлив!*

***С уважением мама, брат Рома и дядя Саша***

**Дорогой и любимый**
**Владимир Михайлович СТЕПАНЧУК!**
**Горячо и сердечно поздравляю тебя с днём рождения!**



*Так хочется в эти минуты*
*Тебе пожелать навсегда:*
*Здоровья на долгие годы,*
*А в доме — светла и тепла.*
*Пусть годы бегут за годами,*
*О том, что прошло, не грусти,*
*А тем, кто обидел когда-то,*
*Обиду всем сердцем прости.*
*Не трать свои нервы напрасно —*
*Здоровье не купишь нигде.*
*Пусть жизнь твоя будет прекрасна,*
*Я счастья желаю тебе.*

***Жена Валентина***

**Дорогая наша**
**Нина Евгеньевна ОМЕЛЬЧЕНКО!**
**От всей души и чистого сердца поздравляем с днём рождения! С юбилеем!**



*Пусть юбилей несёт лишь счастье,*
*Ни капли грусти, ни одной слезы,*
*Здоровья и душевного богатства*
*Желаем мы от всей души.*
*До старости глубокой и счастливой*
*Ты доживи и правнуков дождись,*
*И оставайся радостной, красивой,*
*Какою трудной не была бы жизнь.*

***С уважением Тамара, Володя и крестник Олег***

**Дорогая и любимая наша**
**Ольга ЛИШИК!**
**Поздравляем тебя с 18-летием!**



*Будь всегда хорошей,*
*Будь всегда красивой,*
*Будь всегда весёлой,*
*Славной, доброй, милой.*
*С горем не встречайся*
*И не будь унылой,*
*Чаще улыбайся,*
*Словом, будь счастливой!*

***Любящие тебя папа, мама, брат Серёжа***

**Дорогая, любимая наша дочурка и сестричка**
**Виктория КЕДУК!**
**От чистого сердца, с огромной любовью поздравляем тебя с 10-летием!**



*Радость скрыть не сумеем,*
*Сильно и нежно любя,*
*С первым большим юбилеем*
*Мы поздравляем тебя!*
*Милая, нежная, славная, чистая,*
*Пусть в этот день, когда ты родилась,*
*Счастье тебе улыбнётся лучистое,*
*Бед и печалей минует напасть.*
*Пусть никогда, никогда не кончается*
*Вера твоя в наступленье весны.*
*Пусть все мечты и надежды сбываются,*
*Явью становятся сказки и сны.*

***С любовью мама, папа, сестра Аллочка***

**Николай Адамович**
**МАЙСЕЙЧИК!**
**Поздравляем тебя с 26-летием!**



*Пусть в этот день 26-летия*
*Засветит солнце ярче,*
*И радость жизни пусть закроет тьму,*
*Здоровье будет лучшим из подарков,*
*А счастье — приложением к нему.*
*Ещё любви тебе желаем,*
*Огромной, чистой, как слеза.*
*Хотим, чтоб вечно улыбались*
*Твои красивые глаза.*

***Оксана, Миша, Алёна и крестница Вика***

**Дорогие**
**Павел и Наталья ШИМЧАКИ,**
**от всего сердца поздравляем с годовщиной совместной жизни, а тебя, Павел, и с днём рождения!**

*Благодарим вас, любимые наши, за нежность и любовь, за добрые сердца, за заботу и за то, что вы есть на свете.*
*Пусть уверенно смотрит в жизнь молодая семья и ей всегда и во всём сопутствует удача.*

***С любовью родители Шимчаки и Дожины, брат Алексей, сестра Наталья, бабушка Зина, друг Дима, Анна Роннинг с мужем и все, кто любит вас***



**Любимого мужа**
**Павла ШИМЧАКА**
**поздравляю с днём рождения!**

*Желаю ему стойко оберегать семейный очаг, света, тепла, уюта и полного кошелька.*

*Когда я просто на тебя смотрю,*
*То за тебя судьбу благодарю,*
*Когда моя рука в твоей руке,*
*То всё плохое где-то вдалеке,*
*Когда щекой к твоей я прикоснусь,*
*То ничего на свете не боюсь,*
*Когда я глажу волосы твои,*
*То сердце замирает от любви,*
*Когда смотрю в счастливые глаза,*
*То на моих — от нежности слеза.*
*С улыбкой светлой на тебя смотрю,*
*И жизнь, что вместе мы, благодарю!*

***С любовью жена Наталья***

**Дорогая, любимая жена, мама и бабушка**
**Мария Петровна МАЙСЕЙЧИК!**
**Поздравляем тебя с 50-летием!**



*50 — это много и мало,*
*Это в жизни проложенный путь.*
*Не всегда были розы в дороге,*
*Но с неё никуда не свернуть.*
*Было трудно, но ты не сдавалась,*
*Было больно — не хныкала ты.*
*И всегда ты собой оставалась,*
*И порою сбывались мечты.*
*Быть такою тебе мы желаем*
*Много лет, много радостных дней.*
*С днём рожденья тебя поздравляем,*
*Будь здорова, душой не старей.*

***Любимый муж, дочь, зять и внучки***

**Милые, родные, любимые**
**Владимир Григорьевич и Тамара Владимировна ПАСТЕРНАКИ!**
**От всей души поздравляем вас с днём рождения!**

*Пусть дни идут, тускнеют годы,*
*Уносят память и мечты.*
*Останься Ты навек таким же,*
*Как светлый лучик среди тьмы.*
*Где взять одних благополучий?*
*Так не бывает — это факт.*
*И пусть побольше будет «лучше»*
*И меньше будет «кое-как».*
*Тебе, папуля, мы желаем в день рождения*
*Улыбок, радостных хлопот,*
*Здоровья, счастья и веселья*
*Сегодня, завтра, круглый год!*



**Любимая мамочка!**

*От чистой души*
*Тебя с днём рождения поздравить спешим!*
*Хороший Ты наш, дорогой Человек!*
*Пусть дольше продлится*
*Твой жизненный век!*
*Здоровье и счастье Тебе пусть прибудут,*
*Обиды и горе пускай позабудут.*
*Спасибо, родная, за то, что живёшь,*
*Лелеешь, балуешь и нас бережёшь.*
*Спасибо, любимая, за то, что растила,*
*За то, что взамен ничего не просила,*
*Что радость и горе деля пополам,*
*Во всём лучшей доли желала Ты нам!*

*Мы очень благодарны за то, что вы у нас есть. Ваше тепло, доброта и забота постоянно согревают нас. Вы даёте нам силу и веру, надежду и любовь.*
*Вы — наша опора!*
*Живите, родные, много-много лет,*
*Теплом детей и внуков будьте вы согреты,*
*Не знайте вы ни горя, ни тревог, ни бед...*
*Живите! Вам земной поклон за это.*

***С любовью ваши Танюши, Наташи, зятья***

**Дорогого, любимого мужа, папочку**
**Олега Ивановича КУРМАНА!**
**И его брата, дядю**
**Игоря Ивановича КУРМАНА!**
**От всей души и чистого сердца поздравляем с днём рождения! С юбилеем!**

*Хотим тебя поздравить мы сердечно,*
*Ты для нас на свете лучше всех.*
*Пусть счастье в жизни длится бесконечно,*
*Во всём тебе сопутствует успех!*
*Когда я глажу волосы твои,*
*То сердце замирает от любви,*
*Когда смотрю в твои счастливые глаза,*
*То на моих — от нежности слеза.*
*С улыбкой светлой на тебя смотрю,*
*И жизнь, что вместе мы, благодарю.*
*Пусть этот день, который ты встречаешь,*
*Счастливой датой в жизнь твою войдёт,*
*И всё хорошее, о чём мечтаешь,*
*Пусть сбудется и пусть придёт.*
*Пусть в счастье распахнутся двери,*
*И всё, что будет, прожито не зря.*
*Ты знай: в тебя мы очень верим*
*И помни: мы любим тебя!*

***Жена Наташа, дети Алексей и Екатерина***



*Желаем счастья и добра,*
*Желаем жизни полной,*
*Чтоб бодрость — с самого утра*
*До самой ночи тёмной.*
*Чтоб не был тяжек груз годов,*
*Чтоб не был лёгок кошелёк,*
*Чтоб дом был полной чашей,*
*Других домов всех краше.*

***Брат и его семья***

**Дарагі наш**
**Пётр Уладзіміравіч ПІШЧУКЕВІЧ!**
**Шчыра, ад усяго сэрца віншуем цябе з днём нараджэння, з юбілеем!**

*Жадаем табе шчасця, сямейнага дабрабыту і моцнага здароўя на доўгія і доўгія гады.*

*Желаем счастья и добра,*
*Желаем жизни полной,*
*Чтоб бодрость — с самого утра*
*До самой ночи тёмной.*
*Чтоб не был тяжек груз годов,*
*Чтоб не был лёгок кошелёк,*
*Чтоб дом был полной чашей,*
*Других домов всех краше.*



***З любоўю твае жонка Зоя, дзеці Паўлік і Васіль, маці Ніна Іванаўна, брат Мікалай і сястра Вольга з сям'ёй***

**Дорогая, любимая**
**Олечка МОРОЗ!**
**Искренне и, любя, поздравляю тебя с днём рождения!**

*Любимая, пусть Бог*
*Благословит твой каждый час.*
*Когда б сильней сказать я мог,*
*Сказал бы, верь мне, сотни раз.*
*Но что сказать сильней, чем то,*
*Что весь я твой, что так любить тебя*
*Не будет уж никто!*



***С любовью и нежностью твой Женя***

